



# ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ №8

Завода дробнага рамонту
завод імя Варашылав
стаў заводам варштата будаўніцтв

## ЗЬМЕСТ:



**АДДЗЕЛ ПАДПІСНЫХ І ПЭРЫОДЫЧНЫХ ВЫДАНЬНЯЎ**

## ПАДПІШЫСЯ на 1932 г.

**на адзіны ў БССР ілюстраваны двухтыднёвы часопіс тыпу лепшых ілюстраваных часопісаў СССР**

# Чырвоная Беларусь

**ПАД РЭДАКЦЫЯЙ МІХАСЯ ЧАРОТА**

## У „Чырвонай Беларусі“ на працягу 1932 г. будуць зьмешчаны:

**Апавяданьні:** С. Баранавых, Ул. Барашкі, З. Бядулі, А. Вольнага, Т. Гушчы, Ц. Гартнага, П. Галавача, Даўгапольскага, М. Зарэцкага, В. Каваля, Э. Кагана, Р. Кальтофэн, М. Кальтофэн, М. Лынькова, Я. Лімаsuccescaga

**Поэмы і вершы:** А. Александровіча, З. Астапенкі, С. Астрэйкі, М. Багуна, Бацюшкава, Я. Бобрыка, П. Броўкі, А. Звонака, Я. Купалы, Я. Коласа, К. Крапівы, С. Ліхадзіеўскага, М. Лужаніна, Юр. Лявоннага, В. Маракова, С. Нортмана, Ю. Таўбіна, І. Харыка, Ул. Хадыкі, М. Хведаровіча, М. Чарота, С. Шушкевіча і інш.

**Нарысы і фэльетоны:** М. Аляхновіча, Бэндэ, С. Бэрнара, С. Гюгера, А. Вольнага, В. Вольскага, Ф. Выхадцава, Ц. Зарэчнага, Б. Мікуліча, Мяжэвіча, Ал. Некрашэвіча, М. Пасьлядовіча, Я. Скрыгана, В. Сташэўскага, Шкадарэвіча, Хв. Шынклера, Ус. Шыдлоўскага і інш.

**Малюнкі і фото:** Ахрэмчыка, Азгура, Бразэра, Волкава, Гаўрыленкі, Заборава, Давідовіча, Кіпніса, Мазэлева, Малкіча, Пашкевіча, Ран, Семянякі, Салавейчыка, А. Тычыны, М. Філіповіча і цэлага шэрагу раённых корэспондэнтаў.

## „ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ“ ДАЕ Ў ГОД:

звыш 1000 фотоздымкаў, якія ілюструюць соцыялістычнае будаўніцтва СССР і БССР, а таксама замежнае жыцьцё, звыш 300 малюнкаў лепшых мастакоў, звыш 200 апавяданьняў, вершаў і нарысаў.

## „ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ“

на сваіх старонках адлюстроўвае соцыялістычнае будаўніцтва БССР і СССР, практыку герояў пяцігодкі, аддае вялікую ўвагу соцыялістычнаму спаборніцтву і ўдарніцтву, соцыялістычнай перабудове вёскі, шырока асьвятляе разгортваньне культурнай рэволюцыі, жыцьцё мастацтва, тэатру, кіно і інш.

**УМОВЫ ПАДПІСКІ:**

| На 1 год | | На 6 мес. | | На 3 мес. | |
|---|---|---|---|---|---|
| р. | к. | р. | к. | р. | к. |
| 3 | — | 1 | 50 | — | 75 |

Асобны нумар каштуе **15 к.**

**ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА** ўсімі агэнцтвамі сувязі і лістаносцамі, кнігарнямі ДВБ, аддзелам падпіскі кнігацэнтру ОГІЗ'у РСФСР, усімі яго філіаламі і ўпаўнаважанымі.


Тэлефон рэдакцыі 17-09.

# ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ

Пралетары ўсіх краін, злучайцеся!

Адрас рэдакцыі: Менск, Савецкая, 59. Тэлефон 17—09.

КРА АВІК
1 3 2

№ 8




САВЕЦКАЯ БЕЛАРУСЬ ЗАВАЯВАЛА ПЕРАХОДНЫ СЬЦЯГ НАРКОМФІНУ САЮЗА. СЬЦЯГ ПРОЛЕТАРСКАГА ГОНАРУ АТРЫМАН У ВЫНІКУ УПАРТАЙ, БАЛЬШАВІЦКАЙ БАРАЦЬБЫ ЗА ФІНПЛЯН—

ПАДВОІМ,

ПАТРОІМ

ТЭМПЫ РАБОТЫ,

КАБ УТРЫМАЦЬ ГЭТЫ СЬЦЯГ



Міхась Зарэцкі




Урывак з роману „Вязьмо"

Калі Зелянюк, разьвітаўшыся з мужчынамі, узяўся ўжо быў за клямку сваe форткі, нехта нязграбна і рвучка скубануў яго за палу. Ён інстынктыўна адшаснуўся ў бок і напружыўся, гатовы даць адпор невядомаму напасьніку, аж на вялікае сваё дзіва, замест сабакі ці яшчэ якой зьвярыны, убачыў каля сябе разматлашаную ў цемры фігуру чалавека. Чалавек стаяў, прыпёршыся да варот, цяжка варушыўся і мармытаў сабе нешта пад нос. Яго грамоздкае мешкаватае тулава паказвала відочную тэндэнцыю сесьці на дол—ён быў бяз меры п'яны.

— Хто тут?

Чалавек парыўчата таргануўся і на момант адлучыўся ад варот, але зараз-жа зноў узяў ранейшую паставу. Маляўнічым гэстам выставіў наперад руку і загаварыў інтымным шэптам:

— Таварышы... Я—п'яны... да душы, п'яны... Я набраўся, як сьвіньня...

У голасе яго было поўна пакорнага трагізму і разам з тым задавальненьня. Ён нібы каяўся, што п'яны, і разам выхваляўся гэтым.

Зелянюк пазнаў Паўлюка Гвардыяна. Ён падышоў бліжэй да яго і спагадліва запытаў:

— Да хаты мусіць не патрапіце, дзядзька Паўлюк?

Той махнуў рукой з горкай безнадзейнасьцю:

— Што мне хата? Таварышш... быр... бры... быр...

Ён сабраў усе сілы, каб змагчы наравістае слова, і раптам выгаварыў яго скоранька і выразна:

— Брыгадзір...

Тады сам зьдзівіўся сваёй удачы і паспрабаваў яшчэ раз сказаць, але нічога ня вышла. Зелянюк узяў яго пад пашку.

— Ну пашлі, дзядзька Паўлюк! Я завяду вас да хаты. Нуну, сьмялей... Вось так... вось так...

За крокаў дзесяць-пятнаццаць Паўлюк пайшоў больш-менш цьвёрда. Адылі раптам суняўся, з нечаканай круткасьцю завярнуўся на месцы і стаў перад Зелянюком твар у твар.

— А я да цябе... Да вас, ішоў, таварыш... бр... Я п'яны, але я сумленны чалавек...

Ён нахіліўся да Зелянюковага вуха, каб сказаць па сакрэту і рыкнуў на ўсю вуліцу:

— Я ўсё скажу, таварышш... Мяне брат напаіў... родны брат... Дабрадзей... С-сукін сын...

Роўнавага здрадзіла старому і ён важка ўткнуўся тварам у Зелянюкова плячо. Зелянюк мякка, але рашуча ўзяў яго аберуч і надаў ягонаму тулаву належны кірунак.

Рушылі далей. Паўлюк жыў у канцы Сівалапаў і дарога нібы троху ацьвярозіла яго. Ён колькі раз памкнуўся быў вызваліцца ад староньняе апекі і пайсьці самастойна, але ня меў удачы. Тады, пакорна здаўшыся на волю Зелянюка, ён дробна сьмяяўся дуркаватым сьмяшком і мармытаў:

— Бач ты... хэ-хэ!.. Усёроўна, як п'яны... як п'яны, хэ-хэ-хэ!.. Сам туды, а ногі сюды... Сам сюды, а ногі туды...

Хата Паўлюкова была завалена з сярэдзіны сакрэтным завалам: гэтую прамудрасьць стары мусіў зрабіць, як прапіў быў неяк няўмысьля свой апошні замок. І хоць добра ведаў ён, што нідзе ў сьвеце ня знойдзецца чалавека, які-б пагаліўся на ягонае дабро, але ўсёроўна трымаў сакрэт свайго завалу ў строгай таямніцы. Нават цяпер—на што ўжо быў ныпрытомны, а ня здрадзіў сабе. Пацышоўшы да дзьвярэй, ён з хвіліну стаяў перад імі, нешта сам сабе сьціху мармочучы, а тады абярнуўся і бесцарамонна адпіхнуў Зелянюка ў бок.

— Прабачайце... таварыш... Замок з сакрэтам... раз-два (гэтыя раз-два прайшлі ў яго ў доўгай маруднай шарпаніне недзе за вушаком)... Раз-два... раз-два... і—гатова!

З пышнай урачыстасьцю ён расчыніў напіта дзьверы і сам адкінуўся ўбок, саступаючы дарогу Зелянюку.

— Калі ласка! Паж-жаласта!..

Зелянюк, стрымліваючы сьмех, сігануў у чорную дзірку дзьвярэй. На яго патхнула валкім кісьлявым пахам бруднага жыльля і ён зразумеў, што сянец у Паўлюка няма, а дзьверы знадворку вядуць адразу ў жылую хату.

Стары зачыніў дзьверы і шумацеў недзе ў цемры, мабыць шукаючы сярнічак. Зелянюк дастаў свае і запаліў. Цьмяны дрыготны агонь асьвятліў досыць раскошную хату—амаль пустую і страшэнна брудную. Чамусьці з асаблівай рэзкасьцю ўелася ў вочы страшная закарэлая шмотка на стале і гнілы сноп саломы ў качарэжніку, пастаўлены туды няма-ведамі з якім прызначэньнем. Шмотка была, здаецца, адзіным прадстаўніком у гэтай хаце тканых вырабаў—хата ўрачыста блішчэла старою зашмальцаванаю гольлю.

Паўлюк нёс аднекуль з запечча маленькую ўбогую газовачку. Зелянюк хацеў быў узяць яе, каб запаліць, але стары таемна паківаў на яго пальцам.

— Я сам... Я яе ведаю ўжо навылёт... Яна ў мяне кап.. карп...

Ён безнадзейна заблытаўся ў слове, скрывіўся з патугі і нездаволеньня, адылі знайшоў выйсьце ў больш прасьцейшым...

— Дрэнь... Паршывая дрэнь...

І поркаючыся над газоўкаю, ён не спускаў з твару горкае міны, поўнае пагарды да „паршывае дрэні".

Зелянюк сеў пры стале на калодку і ўзіраўся ў старога. Яму ўспомніўся бачаны калісь у малыя гады малюнак страшнага чараўніка, які нешта рабіў, схіліўшыся над дзівосным начыньнем. Паўлюк быў падобны да таго чараўніка. Мітусьлівы, няслухмяны бляск газоўкі вырываў з цемры твар яго грубымі кавалкамі, якія ўяўленьне складала ў пачварнае нялюдзкае аблічча. Рэдкая нібы павыдзіраная барада, скрозь



— Прабачайце... замок з сакрэтам

Малюнкі П. Гаўрыленкі

якую сьвіцілася друзлая карабатая скура, надавала твару злы д'ябальскі выраз. І да гэтага—крукаватыя дрыжачыя рукі з набралымі неўвароткімі пальцамі, панура скурчаная постаць, абвешчаная жудаснымі лахманамі, што канчаткова страцілі свой першапачатковы выгляд.

Нарэшце газоўка сяк-так загарэлася, і стары скрывіўся ў здаволенай усьмешцы.

— Я яе знаю... Мы ўжо з ёю век зьвекавалі... хэ-хэ... Яна ў мяне кап... карп...

Зноў не сказалася слова, але цяпер стары бязуважна махнуў на яго рукой—ліха яго бяры!

Ён сеў на лаўку і млява пахіліў галаву. Зелянюку здалося, што ён хоча драмаць і ён устаў ужо быў, каб ісьці, але Паўлюк раптам усхапіўся і затрымаў яго.

— Чакай... чакай. Ты ў мане ў гасьцях таварыш... быр... бры... Але частаваць няма чым... прабачай... Сядайце, паж-жаласта...

І сам сеў на месца, зноў пахіліў галаву. Потым загаварыў ціха і сьцеражліва, нібы адкрываў якую таямніцу:

— Я—п'яны... Я ўчора піў і сягоньня піў... І заўтра... Брат паіў... разумееш? Свой брат... Цімахвей Міронавіч... А я—Павал Міронавіч... Паўлюк, п'яніца... Я табе ўсё скажу... Чакай, сядзі тут...

Ён нахіліўся да Зелянюка і зашаптаў:

— А чаму ён поіць мяне, га? Ня ведаеш? А я ведаю...

І стары хітра падміргнуў Зелянюку.

— Ён разумненькі, ого! Ён хоча, каб я рабіў, як яму трэба. Каб слухаў усё ды расказваў. Я—бядняк... разумееш? Мне ўсюды хады адкрыты... Я, калі хочаш, і на ячэйку пайду... і ў комуністы запішуся... Што, ня возьмеце? Га? Ня возьмеце?

Зелянюк супакоіў яго, і ён раптам упаў у сантымэнтальную ласку.

— Ты добры хлопец... Да душы, добры... Я шаную... люблю цябе... А ён ня любіць, баіцца... ха-ха... Сьвіньня ён, хоць і брат... Чуеш ты, таварыш... Ён-жа мяне са сьвету зьвёў, ён мяне загубіў... да душы загубіў... Ты думаеш гэта я так заўсёды? Думаеш, я ня быў гаспадаром? Чакай, чакай... я пакажу табе... зараз...

Важка баўтнуўшыся тулавам, ён рушыўся з лаўкі і патупаў па хаце. З нечаканым спрытам узьлез на печ і пачаў поркацца там. Зелянюк зірнуў сьледам за ім і вока яго прыемна адпачыла ад нуднае хатняе пустаты: на печы было поўна ўсякага гаспадарчага гломазду. Там былі і ўбогія выстанкі калішняй адзежы, і павышчэрбляны гліняны посуд і нейкая дзежачка, і нават худы рабраваты дзеркач. Відаць, таму было ўласна Паўлюкова кватэра, а пустая хата служыла ёй толькі прыдзьвер'ем.

Паўлюк дастаў з печы нешта завінутае ў рудую шмотачку і, паднёсшы да стала, стаў асьцярожна раскручваць.

— Вось што... Зірніце, таварыш... га?

Гэта была фотографія дзяўчынкі гадоў у пятнаццаць, апранутай ў гімназійную ўніформу. Тлустыя плямы, якімі пакрыта была картка, надавалі бязьмежна пакрыўджаны выгляд мінятурнаму жаласна наіўнаму, як у птушаняці тварыку.

Стары шаптаў набожна і ціха, як пры нябожчыку.

— Дачка, родная дачка... У гімназыі вучыў... у пятай клясе. Такая была... такая...

Зелянюк чакаў, што ён заплача, і гэтыя раптоўныя сьлёзы былі яму зразумелыя. Але дужа дзіўна, не па-звычайнаму плакаў гэты стары. Ён не хаваў твару, не закрываўся рукамі, а толькі адхінуў у бок галаву, каб не запляміць сьлязьмі фотографіі і зьлёгку нахіліўся—пэўна каб латвей было сьлёзам сьцякаць па карабатаму твару. І яны цяклі спорна, дружна, весела, даганяючы адна адну, абмінаючы, то хаваючыся ў глыбокіх разлогах зморшчак, то зноў выбягаючы на грубыя, кваравіта набраклыя ўзгоркі. А ў гэты час стары Паўлюк пацешна чмыхаў сваім вялізным бульбаватым носам, і ў гэтым чмыханьні ня было ніякага падабенства плачу—больш падобна было да стрыманага нэрвовага сьмеху.

Адплакаўшыся, стары стаў амаль што цьвярозы. Ён спакойна закруціў у шмотку няшчаспую фотографію, паклаў яе пры сябе на стол, сеў і стаў тлумачыць зусім складна, разважна:

— Памёрла дачка. Даўно ўжо памёрла. З гэтага і пайшло ўсё. Яна доўга хварэла, усё лячылі, думалі—палепшае. Многа грошай трэба было, а іх ня надта й было. У яго браў, у брата. А ён даваў—чаму не! Ён-жа дабрадзей такі. І расьпісачкі браў... Ну, а потым—стоп! Падрахаваліся... Ну і вышла што ўвесь чыста ў яго ў руках... Хату, дзякуй яму, пакінуў. Во гэту самую... А больш нічога... усё забраў... Ня судзіліся мы—так, па добраму, як браты...

— А дачцы не далі рады?

Зелянюк зрабіў гэтае запытаньне проста так дзеля размовы, але старога яно чамусьці ўзяло за жывое. Ён сударгава схапіў Зелянюка за рукаў і, жаласна зазіраючы яму ў вочы, загаварыў з старым, ужо абыклым яму болем:

— Вылячылі-б... Да душы вылячылі-б... Не хапіла... Яшчэ каб якіх з паўсотні... Харчы трэба было добрыя даць. Ад харчоў, казалі, усё будзе...

— А ён больш ня даў?

Стары горка засьмяяўся.

— Ха-ха... Ня было больш рахубы даваць... Даваў пакуль было пад што... Дабрадзей!



Паўлюк нёс з-запечча ўбогую газовачку

У старых асьлізлых вачох у яго з-пад алькогольнага туману, з-пад старэчае бязуважнасьці блісьнуў нарэшце востры агоньчык нянавісьці і дзівосным чынам зрабіў яго больш падобным да чалавека? Разам з нянавісьцю адрадзіўся і бледны цень чалавечага гонару, калупнуў старое нутро джгалам прыкрых згрызот.

— Прапашчы я чалавек... таварыш... Гарэлка губіць мяне... Як старая памёрла, дык і пачаў... утрымкі ня маю... І да яго хажу... зьдзекі цярплю. Ці-ж ён, думаеш, мяне як чалавека прымае? Як сабаку якому кіне костку ды і патурыць вон... А яшчэ прымушае хадзіць усюды, выслухваць, што дзе пра яго гавораць, што дзе ладзяць супроць яго. Значыцца, нібы як за шпіёна ў яго служу... ха-ха!

Зелянюк халаднавата ўсьміхнуўся.

— На што ты гаворыш мне гэта, дзядзька Паўлюк?

Стары замятушыўся.

— Вось аб гэта-ж... Наўмысьле кажу вам... даўно ўжо хацеў, сказаць... Ня пускайце мяне нікуды, ганіце мяне, як сабаку... Усёроўна—прапашчы я чалавек... Свайму найгоршаму злосьніку падслужваюся... паганствам займаюся... Ды вось... ганіце мяне, як паршывага сабаку... ганіце адсюль...

Зелянюк устаў, ладзячыся ісьці. Падышоў да Паўлюка, паклаў яму руку на плячо.

— Вось што, дзядзька Паўлюк. Ніхто цябе ні адкуль ня гнаў і гнаць ня будзе. Тое, што ты там пераказваеш каму, нас ані не абыходзіць. Мы, дзядзька, не хаваемся, робім усё на-адкрытае... Наша справа не патрабуе ніякіх сакрэтаў, бо яна агульная, усіхная, яе робіць уся грамада. Разумееш? Ну, а што да цябе... Можа яшчэ паспрабуем як узяцца за справу, га? Можа яшчэ і ня ўсё прапала? У колгас-жа пойдзеш да нас? Ці мо яшчэ будзеш каля брата круціцца? Га? Дзядзька Паўлюк?

Паўлюк засьмяяўся сіпучым здушаным сьмехам. Яго сьлізкія вочы паплылі хісткім агнём лісьлівай давольнасьці. Ён раптам схапіў Зелянюкову руку і гучна, моцна яе пацалаваў.

Зелянюк пасьпешна пашоў з хаты, заціскаючы ў сабе мімавольнае пачуцьцё агіды.

ВЯЧАСЛАЎ ПАЛЕСКІ

# ДЗЕ СПАБОРНІЧАЮЦЬ СПАРАНЫЯ

ФОТО МАЗЕЛЕВА



Дэпо Жлобін. Паравоз Щ—1689.

(З нарысу)

Ходзяць цягнікі па шляхох.

На канаве пад чысткай стаіць Щ—1689.

На чыстых грудзёх яго бліскучая пяцікутовая зьвязда. На баку каляровымі фарбамі чысьценька выведзена:

> Ударны паравоз Щ—1689
> імя газэты
> „Савецкая Беларусь“

Каля паравозу некалькі чалавек. Яны правяраюць яго, аглядаюць часткі, чысьцяць чорныя налёты на мэталі і робяць уважлівую змазку.

Брыгада машыніста Хохава перадае паравоз свайму напарніку—спаранай брыгадзе Зялёнкі. Зялёнка—энэргічны, сярэдняга росту і ўзросту чалавек. У мігах павек захаваліся шустрыя, імпэтныя вочы. Вочы такія здольны бачыць многае, здольны штохвіліну коўзацца позіркам па гарачым і склізкім катле, пільна сачыць за стрэлкай маномэтру—за ціскам пары, заглядаць у апальні, правяраць профіль дарог.

— Хлопцы, хутчэй! Выезд на контрольны пост.

Брыгада на месцы.

Хохаў, стоячы ля канавы і трымаючы ў руках маленькі рундучок, разьвітваецца:

— Шчасьлівай дарогі.

На мове машыністаў гэта значыць:

— Праехаць дарогу без здарэньня.

Зэканоміць каштоўнае паліва, змазку. Не зрабіць спазьненьня ні на адну хвіліну. Не дапусьціць ніводнага папсаваньня.

— Шчасьлівай дарогі—на мове машыністаў азначае вельмі многае.

Зялёнка бярэцца за белы рычаг і некалькімі вёртамі дае ход наперад. Рэгулятар адводзіцца на стромкавую лінію і пара з катла пераходзіць у залатнік. Залатнік—гэта параразьмяркоўчы мэханізм, галоўны сустаў паравознага організму.

І паравоз кранаецца з месца. Стрэлка маномэтру на васьмі атмосфэрах. Патрэбна чатырнаццаць. Але да кантрольнага паста ціск пары падымаецца ўверх. Брыгада ведае гэта і разводзячы да кантрольнага слабы агонь у апальні, экономіць паліва. Памочнік машыніста, удумлівы і спакойны хлопец, сачыць за вялічынёй ціску, за колькасьцю вады ў шкляной трубачцы.

Мала вады ў трубачцы—значыць мала яе ў катле. Пры вялікім агні малая колькасьць вады ў катле небясьпечна. Верх апальні і днішча катла змацоўваюцца так званымі анкернымі балтамі. У стольні апальні ёсьць дзьве пробкі, залітыя лёгкаплыткім мэталем. Будзе ў катле мала вады, а ў апальні многа жару—пацякуць пробкі і работа паравозу прыпыніцца.

Захоўваць строгую прапорцыю паміж вадой і агнём—вялікае ўменьне. Памочнік машыніста валодае гэтым уменьнем: у брыгады ніколі ня было самага цяжкага сярод здарэньняў—выпадку плаўкі пробак.

Памочнік машыніста пільна сочыць за стрэлкай маномэтру, якая паказвае ціск пары. У апальню кідаецца некалькі порцый мокрага вугалю. Падымаецца ручка інжэктару і вада з тэндэрнага латка з гулкім бульканьнем уліваецца ў кацёл.



Машыніст т. ЗЯЛЁНКА



Машыніст т. ХОХАЎ

З контрольнага паста паравоз бярэ таварны састаў. Стрэлка манамэтру становіцца на чатырнаццаць. Паравоз пачынае ход. Чутна як з-заду чокаецца буфэр аб буфэр, як грымяць калёсы, як зьвіняць рэйкі.

У будку паравозу адчыняюцца дзьверы і праз іх нахіляецца чыясьці галава, на каўняры—кандуктарскія пятлічкі.

— Мэханік—пытаецца той, што нахіляўся—можа-б да Падольскай падвёз.

Раней гэтага ня пыталі. Да ўвядзеньня спаранай, пераступаючы праз закон, рабочыя з чыгункі лезьлі ў паравозную будку і ехалі там да бліжэйшых станцый. Набівалася ў будку поўна, націскалі на машыніста, перашкаджалі працаваць ды яшчэ і скардзіцца не давалі:

— Не на сваім едзеш. Я такое права на гэты паравоз, як і ты, маю.

Але зараз адчулі гаспадара. І гэтая просьба пад'ехаць да Жлобін-Падольска ня проста фармальнасьць. У такой просьбе адчуваньне таго, што паравоз атрымаў гаспадара, што за паравоз нехта адказвае і што гэты нехта не дапусьціць перашкаджаць рабоце. Просьба пад'ехаць да Жлобін-Падольска—ня простая просьба.

Пры абязьлічцы было і ня тое яшчэ. Паравозы не маглі хадзіць у рэйс ад хранічных хвароб. Партыя правяла на транспорце каштоўнае мерапрыемства—увядзеньне спаранай язды.

Зялёнка пачаў працаваць упары з Хохавым. На іх долю прыпаў паравоз, паламаны і хворы С—305.

Вакол паравозу хадзілі паравозьнікі, недаверліва паглядалі на яго, кпілі:

— Лепш ужо ламачыну ўзяць, чымся гэтага.

— Сабою лепш саставы цягаць—колка і хціавата заўважвалі тыя, якія атрымалі лепшыя паравозы.

А С—305, дабіты да ручкі, невясёлым стаяў у дэпо. Ад яго адмахнуліся ўсе. І стаяў С—305, нудзячыся ад смугі па прабегу, хварэючы штодзень.

Тады спараныя брыгады Зялёнкі і Хохава рашылі даказаць, што няма дрэннага паравозу.

— Вазьмеце ды з дрэннага добры зрабеце.

— Сапсаваць паравоз ня штука.

За С—305 узяліся добрыя гаспадары. Паравозу—прыпісалі капітальнае лячэньне. Рабочыя дні і бяссонныя ночы брыгады праводзілі на паравозе.

— І глядзі ачуняў.

— Ня дрэнны паравоз.

А брыгады разьвівалі ўдарны ход. Паравоз пад спрактыкаванымі рукамі спараных стаў надзейным нэрвам дэпо. На С—305 брыгады ўзялі другое месца ва ўсебеларускім конкурсе лепшых, даўшы рэкордную лічбу па экономіі паліва—42 проценты, з посьпехам выканаўшы ўсе вымернікі.

Дрэнных паравозаў няма. Дрэнныя машыністы ёсьць.

Але машыну С—305 дырэкцыя дарогі перадала ў другое дэпо. Брыгалы атрымалі Щ—1689.

Прышлі брыгады на паравоз. А на новым паравозе цякуць дымагарныя трубы. На Щ—1689 няправільна працуе правы залатнік. На паравозе дзесяткі іншых дэфэктаў.

Зялёнка—сур'ёзны чалавек. Але яго чыстыя вочы прасьлязілі буйную крапіну, як вёрткае жывое срэбра.

Зялёнку супакойваў Хохаў:

— Нічога, Кастусь. Мы і на гэтай працаваць здолеем.

Здолелі, канешне.

Першыя паездкі далі перапал паліва.

У партколектыве трывожыліся работнікі:

— Як гэта можа быць?

— Лепшыя ня могуць перапальваць!

У трывозе растрачвалася спакойнасьць брыгад. Упарта вывучаліся нoравы Щ—1689; падначальваліся яны ўпартай волі людзей, пагасалі плаксівыя капрысы паравозавы. Паравозу далі меней харчы, але разьмерней і па-гаспадарску. Першыя тры дні далі пяць процантаў экономіі паліва, далейшыя дні прыносілі прогрэсыўны рост, а бліжэйшыя два тыдні далі семнаццаць процантаў экономіі.

За перапал хварэлі ў дэпо, у партколектыве, на паравозе. Але адлегла ў работнікаў ад сэрца: спараныя брыгады заявілі:

— Мы ведаем свой паравоз. І болей перапальваць ня будзем.

Щ—1689 болей не перапальвае.

Упэўненай хадою прыходзіць ён паўз адчынены сэмафор. Прыпыняецца на станцыі Мормаль, тут рыхтуецца скрыжаваньне для сустрэчнага хуткага цягніка.

Зялёнка глядзіць у вакно і бачыць сноп сьвятла ля апошніх загонаў з саставу. Ён бяжыць да сьвятла. Ліпкі дым растрасаецца ветрам, як чорныя дымныя косы, а доўгія стужыны агню навобмацак хапаюцца за пляцформу. Гэтак гарыць падбіўка буксы. Гарэньне падбіўкі — вынік нядбайнай работы змазчыка.

У шыю пагнаць-бы такіх — абураецца Зялёнка і дапамагае прышоўшым са станцыі дзяжурным сьнегам тушыць буксу. З Зялёнкам цалкам згаджаецца яго памочнік. Але супраціўна, а ў лепшым выпадку нэйтральна, глядзіць на гэта ягоны качагар. Яго ня турбуе гэта. Ён дрэнна працуе і на паравозе.

Гэта бесклапотны, забубённы хлопец. У яго абыякавыя (як абыякавае хістаньне сосен ад ледзь чутнага ветрыку) вочы і рухі.

А ў дадатак да ўсяго гэтае характарыстыкі, качагар Васіль—антысэміт. Высунуўшыся да поясу за вакно, ён спэцыяльна шукае вачыма на панэлі пасажыра—яўрэя. Ён ніколі ня вытрымае, каб заўважанага ім не абазваць брыдкімі словамі, і тут-жа раскажа, смакуючы паклёпніцкі анэкдот пра яўрэяў.

Аб паводзінах Васіля ведалі кіраўнікі дэпо, работнікі партколектыву. Некаторыя з іх прапанавалі нават перакінуць Васіля ў горшую брыгаду.

— Брыгада Зялёнкі павінна быць крышталёвай. Яму трэба даць другога, добрага качагара.

Некаторыя работнікі цалкам салідарызаваліся з гэтым і настойвалі на неадкладным ажыцьцяўленьні прапанаванага, іншыя не настойвалі на гэтым, але і ня супярэчылі гэтаму. Знаходзілася шмат такіх, якія былі супроць.

Рашаючае слова сказаў сам Зялёнка. Ён прышоў у партколеклыў і заявіў:

— Качагар Васіль застаецца ў мяне. Я комуніст і павінен яго перавыхаваць.

Васіль патрабуе вялікай школы. У яго вачох трэба прыдушыць абыякавасьць і спыніць бесклапотныя

УДЗЕЛЬНІКІ ДРУГОГА ЎСЕБЕЛАРУСКАГА КОНКУРСУ СПАРАНЫХ БРЫГАД



Машыніст спаранай брыгады паравоза Щ — 1685 т. Сенажэнскі.



Машыніст спаранай брыгады паравоза Щ — 1685 т. Вігдорчык.



Пам. машыніста паравоза Щ—1689 т. Тамкоў.



Зьлева направа: нач. дэпо Жлобін т.т. Гарбачэнка, прадстаўнік газ. „Сав. Бел.“ Палескі, машыніст Хохаў.

рухі. З ім трэба самым дбайным чынам распрацаваць ленінскую нацыянальную політыку. І ў яго істоце будзе зьнішчаны антысэміт. Яму трэба вельмі падрабязна расказаць пра машыніста яўрэя Віґдорчыка, які лепш за ўсіх вядзе свой паравоз. Васілю трэба расказаць пра качагара—эстонца з брыгады Хохава, які лепш працуе за Васіля. Упартае штодзеннае выхаваньне Васіля ў яго істоце пераможа антысэміта.

Ня нацыя вырашае пытаньне, а клясавая сутнасьць чалавека, яго адносіны да працы, яго ўдарная работа.

Качагар Васіль, калі хоча працаваць—працуе добра. Ён часамі станавіўся на месца памочніка і выконвае яго абавязкі. Але ён хварэе на ляноту, на самую ганебную і брыдкую хваробу.

Васіля не турбавала згарэўшая букса. Яго не турбавала, тое, што вось адчапілі чатыры вагоны з сяўбовымі грузамі і пакінулі ў тупіку.

Цягнік вышаў з Мормаля і прайшоў яшчэ некалькі пераґонаў. Паабапал насыпу ляжала пяшчаная зямля Мазыршчыны, балацяныя паплаўцы цягнуліся да далёкіх ускрайкаў прысадзістага лесу. Пахла сухім неўрадлівым пяском. Смачным, як вусны дзявочыя, глеем, альсом мокрым, як трава ў росную ноч.

На гэтыя гоні патрэбны тысячы тон угнаеньня. На зямлю Мазыршчыны пусьціць-бы яшчэ сотні трактароў, сеялак, малатарняў. На пяскі, на альсы, на глец—вагоны мінэральных угнаеньняў.



Дэпо Бранск. Комсамольцы робяць тэхнічны агляд ударнага комсамольскага паравоза № 685-05

Трымаючы за рычаґ і дасьпіпна правяраючы профіль дарогі, Зялёнка чуе як за паравозам грукацяць вагоны, у якіх машыны для палёў—Мазыршчыны, угнаеньне на пяскі, на альсы, на глей.

За паравозам грукаюць вагоны, бандажы стукаюць аб рэйкі. У някранутай велічы стаяць трактары на пляцформах, парыцца ўгнаеньне ў вагонах. Гэта б'ецца магутны пульс бальшавіцкай вясны, моцны, як гулкая паводка, радасны, як сонечны дзень.

— Ты хоць раз адчуваў гэту пачэсную неабходнасьць працаваць ударнымі тэмпамі?—зьвяртаецца Зялёнка да Васіля. (За паравозам біўся пульс вясны. Распараная зямля ўсьміхалася сінявой і рукамі—кусточкамі, рукамі—дрэвамі проста схілялася ў паравознае вакно.

Васіль, бадай што першы раз, робіць задумлівы заклапочаны твар. Васіль думае над сваімі паводзінамі. Прыкладныя паводзіны работнікаў, з якімі разам працуе, прымусілі яго зрабіць гэта. Думае Васіль:

Прадуваньне дымагарных труб.



— Ці падобны яго паводзіны на грамадзкія? Ці такія яго нормы паводзін, як у другіх, у лепшых?

Падымаецца сэмафор, як рука маленькага цацачнага чалавечка.

Шкло паказвае, што ў катле нормальная і патрэбная колькасьць вады. Стрэлка маномэтру стаіць на чатырнаццаці атмосфэрах.

**ПРАЗ СПАБОРНІЦТВА СПАРАНЫХ БРЫГАД ПАЛЕПШЫМ РАБОТУ ТРАНСПОРТУ.**

# ПАДРЫХТОЎКА КАДРАЎ НА ЖЛОБІНСКІМ ВУЗЬЛЕ



Вывучэньне тэлеграфу (Морзэ)



Ударнік дыспэтчэр т. Сьцяблёў



Курсанты паўтарамесячных курсаў па павышэньні кваліфікацыі службы руху. Вывучаюць сэмафор

# ЗЯМЛЯ

Залапаная праз вякі
Магнатамі і кулакамі,
парэзаная на шматкі,
расквапленымі пазурамі,
акропленая, як вінoм,
суровым паднявольным потам,
яна карміла палыном
рабоў за працу і пяшчоту.
Пакуль убогая саха
крамяныя ўзрывала грудзі,
яна чакала жаніха,
што вызваліць яе й пабудзіць.

І ён прышоў да сонных скіб,
сарваў з зямлі рукою сьмелай
вянцы абшарніцкіх сядзіб,
вязьмо нявольніцкіх надзелаў.
Ад грому войн, ад сьвісту куль
прышоў ён, каб надаць адразу
ў мужыцкі нехлямяжы пульс
рабочага энтузіязму.

Чацьверты год вялікі плян
стальной энэргіяй крынічыць.
І зноў прачнулася зямля
ў праменьнях трэцяй бальшавіцкай.

Румянцам чорным грае твар —
яна ўздыхае шумам радым,
калі ёй працу сваю ў дар
нясуць колгасныя брыгады.

У стромкіх тлустых ручаях —
ў глыбокіх шрамах чарназёму
ізноў—усіх і нічыя—
яна набракне буйным плёнам.

Зірні, таварыш, навакол
руплівым гаспадаркім вокам:
ці востры плуг, ці сыты конь,
ці вораг не засеў дзе збоку.

Зямля ня любіць кволых рук,
ўзбудзіць яе—цяжкая справа:
ня бойся-ж, браце, гнуцца ў крук—
ты выпрастацца маеш права!

Ты толькі ў заўтрашняе глянь!
Узьнятая напорам ярым
ўвесь сьвет колгасная ральля
да іншых дзён вядзе, таварыш!

Штурхні у карак гультая,
вазьмі за горла жываглота
і праца ўздымаецца твая
уздзячнай землянэй пяшчотай.

Хай болей ад усіх часоў
блісьне пятнаццаты Кастрычнік
і бронзай жытных каласоў
і ясным золатам пшаніцы.

Ал. Дудар.

Красавік 1932 г.

Зьмітрок Астапенка

# АРЫШТ

## Урывак з роману

Раніцою над сялом павісла трывога. Вестка пра падпал асадніцкага сена абляцела ўсе двары і ўсе непакойна чакалі што будзе. Каб гэта здарылася так з кім-небудзь, дык ніхто-б не зьвярнуў на тое вялікае ўвагі. Ці мала чаго бывае? Навошта было пакідаць на лузе копы? Гэтым часам ня дзіва і горшыя пажары. Але ўчорашні пажар ня быў звычайным. Гэта добра ведала ўся Смольня і таму трывожылася і чакала.

На прызьбе Лук'янцовае хаты з раньня гуртам сядзелі сяляніе. Людзі адыходзілі зрабіць сякія-такія справы і зноў вярталіся да прызьбы, сядалі, закурвалі, спрабавалі гутарыць. Алс гутарка не вязалася. Людзі не дагаварвалі слоў, чакаючы пазіралі на высокі ганак суседняга дома.

— Нешта-ж доўга іх трымаюць,—сказаў чарнявы Лук'янец.

Шыльда над высокім ганкам зыбалася на ветры і літары на ей чарнелі:

**Pasterunek P. P.**

we wsi Smolni

Раніцою ў пастарунак, людзі бачылі, павялі Антона Сямаку і Міхася Пашкевіча. Вось чаму сяльчане цеперся сядзелі тут і чакалі. Відаць на гэтых двох падумалі, што яны падпалілі асадніцкае сена. Кожнаму хацелася хутчэй даведаца, чым скончылася справа.

— Але-ж... Нешта яны там забавіліся...

Сухенькі дзядок у доўгай палатнянай кашулі і із валасамі белымі, як лён, сказаў гэта падробленым спакойным голасам, але відаць ён дужа хваляваўся. Ён парываўся ўстаць і пайсьці ў пастарунак, каб даведацца самому, але потым махаў рукою і зноў сядаў на бервяно каля прызьбы, смокчучы люльку.

— Ліха іх ведае... ліха іх ведае...—мармытаў ён і зьвяртаючыся ўжо да ўсіх сяльчан, гаварыў:

— Ды мой-жа Міхал у дварэ ўвесь час быў. Вось твой Зьмітрок ведае, што ён дома начаваў. Яны-ж удвох сёньня ў мяне да другіх пеўняў сядзелі.

Нізкі селянін у саламяным капялюшы нічога не адказаў дзеду. Ён толькі пацінуў плячыма і, седзячы тварам да пастарунку, запыхкаў люлькаю.

Пад самымі вокнамі, навокал чарнявага Лук'янца людзі гутарылі ціха, здавалася, хаваючыся ад усіх. Лук'янец толькі ўчора прыехаў з дарогі. У далёкай вёсцы, аж у Косаўскім павеце, была замужам яго дачка і Лук'янец езьдзіў яе наведаць, наведаўшы дачку прывёз з таго краю шмат навін.

Паціраючы асьцярожнымі, з-пад калматых брывей, вачыма на шырокую вуліцу, ён ціха гаварыў суседзям:

— Вы толькі, браткі, таго—не разбрэхвайце. Мне-ж людзі казалі і вам кажу, што мне казалі... Так што вы не таго...

Ён скруціў вузлаватымі пальцамі цыгарку і зацягнуўся. З бярвеньня ў каторы ўжо раз пачулася дзедава:

— У дварэ-ж ён начаваў сёньня, Мікола мой... Хай вось Зьмітрок Ігнасёў пасьведчыць...

Далятаў з балота ядраны восеньскі вецер. Па вуліцы шпацыравалі куры. Дурэлі дзеці. Высокая бяроза асыпала барвовае лісьце над шыльдаю:

**Pasterunek P. P.**

we wsi Smolni

Стаяла бабіна лета.

Лук'янцоў голас ліўся так ціха, так асьцярожна, што за пяць крокаў нічога нельга было пачуць. Суседзі пасунуліся адзін да аднаго бліжэй, падстаўляючы сонцу босыя ногі і загарэлыя рукі.

— ...Пажары гэтыя, дзядзькі, па ўсёй краіне цяпер. Вось мой зяць, значыцца, калі ў дачкі быў, казаў мне: „Паляць, кажа, мужыкі па ўсёй Беларусі панства. Так ім і трэба... Пан добры толькі печаны... Панасаджвалі на нашы шыі асаднікаў ды ўрадоўцаў, дыхаць няма як. Пазадушвалі аднымі падаткамі"... Каля іхнае вёскі, ведаеце, быў асаднік Габлеўскі. Дык вось, значыцца, доўга думалі, што з ім рабіць. Служыў ён, трэба сказаць, патайна ў шпікох і ўсё, што ведаў пра народ-выказваў. Можна сказаць галоўным шпіцлем быў у ваколіцы. Для гэтага ў яго на вёсцы былі свае людзі, што яму дапамагалі—свае-ж вясковыя...

— Ці бачыў ты!.. вось гады!—Хударлявы Каўцэвіч злосьліва плюнуў і запытаў у Лук'янца:—А куды-ж людзі глядзелі?

— От-жа і яно!—спакойна цягнуў Лук'янец.—Пра гэта даведаліся пасьля, калі позна ўжо было.

— А што-ж там было?

— А тое, што спалілі тую вёску, пазабіралі ледзь ня ўсіх у астрогі.

Лук'янец закруціў кручкаватымі пальцамі вусы.

— Трэба сказаць, што тая вёска таго... адмовілася плаціць усякія падаткі, штрафы і на шарваркі ўжо тры гады не хацелаісьці. Упарта стаялі чэрці. Прыяжджаў сэквэстратар маемасьць апісваць, паліцыя—праганялі... Разам, усёй вёскай трымаліся. Там у іх было сем маладых хлопцаў, яны ўсё і паказвалі—як што трэба. У іх на ўсё адзін адказ быў: ураду

## К 1 МАЯ ДНЕПРАБУД ДАЎ ПЕРШЫ ТОК



Пабудова Дняпроўскай плаціны скончана.

оладу і вайны, каб ані гроша... Хлопцы разумныя былі і ўся вёска іх берагла, ня выдавала. А потым неяк грымнуў у вёску атрад. Нічога не зрабілі, а толькі забралі гэтых хлопцаў і двох гаспадароў разам з імі. Быў над імі суд. Там і выявілі, што ў комсамольцах былі тыя хлопцы. Дык пасьля суду ў вёсцы іх і ня бачылі. А тых двох гаспадароў выпусьцілі. Так нейкі час было ціха. Аднойчы бацька аднаго з комсамольцаў сабраў сялян ды й чытае ліст. Ліст той ад сына з турмы быў атрыманы. Піша сын у лісьце, што ўдалі іх, што ў вёсцы ёсьць шпіцлі—настаўнік польскі, асаднік ды свае-ж два селяніна. Тыя самыя, якіх разам з імі арыштавалі для блізіру дый выпусьцілі потым.

Лук'янец замоўк і дадаў праз хвіліну:

— Катавалі хлопцаў там... Як чытаў бацька ліст, дык увесь народ плакаў ад жаласьці, а потым таварыш адзін тых комсамольцаў выскачыў наперад, белы ўвесь, калоціцца, сьлёзы ў яго на вачох... „Сьмерць панскім шпэгам!—кажа, прэч з нашага гурту здрайцаў працоўных!..“ Гарачы быў хлопец, ну, звычайна, і народ запаліў... Так што праз колькі часу пасьля таго—асаднік згарэў, а настаўніка з вясковымі шпіцлямі ў лесе забітымі знайшлі. Вось як.

Лук'янец узьняў галаву і зноў пачаў круціць вусы. Ён заўважыў, што ўжо ўвесь народ уважліва слухае яго і людзі з бярвеньня прысунуліся бліжэй да прызбы. Зусім спакойным голасам ен даказаў:

— Вёска тая, казаў мне зяць, потым зусім адмовілася плаціць. Паліцыянтаў, што былі паткнуліся да іх, зьбілі...

Паміж сялян хваляй прабег задаволены гоман.

— Вось за гэтае самае і спалілі вёску на Касаўшчыне,—скончыў, устаючы з прызбы, Лук'янец.—Мне гэта, значыцца, таго—зяць казаў.

Сяльчане нічога не адказалі яму. Высахлы, худы Каўцэвіч калупаў кіем пад нагамі пясок, а Зьмітраў бацька, да якога зварачаўся дзядок, зьняў шырокі капялюш і залажваў у ім саламяную дзірку

— Вядуць, вядуць ужо!

Дзядок, у якога арыштавалі сёньня ўнука, раптам ускочыў з берваня і памкнуўся да пастарункавага ганку.

— Ліха-ж на іх, як яны доўга трымалі!.. Ну як-жа, Міхаська? Адчапіліся ад цябе яны? Начаваў-жа ты...

І раптам спыніўся ў неразуменьні. За яго ўнукам і Антонам Сямашкам ішлі строгія няпрыступныя паліцыянты. Яны трымалі напагатове багнэты і, штурхаючы сялян пакрыквалі.

— Ну, вы там! Дарогу, дарогу! Разыйдзіся!

Дзядок ня слухаў іх і, чапляючыся за Міхала, нейкім жаласным голасам казаў:

— Завошта-ж гэта, Міхаська? Ты-ж ні ў чым не вінаваты!

І, зьвяртаючыся да паліцыянтаў. ён абурана закрычаў:

— Ды ён-жа начаваў у дварэ сёньня, на тое і сьведкі ёсьць. Вось няхай Ігнасеў Зьмітра скажа...

Высокі старшы пастарункавы суцяшаў дзеда:

— Ня трывожся дзед, ён зусім не арыштаваны. Усё вызваліцца. Ён толькі так затшыманы.

І паціху саштурхнуў яго з дарогі.

Народ усхвалявана зашумеў і пайшоў за паліцыянтамі, Чорны Лук'янец крыва ўсьміхнуўся і нібы сам сабе прамармытаў:

— Ведаем мы гэтае „толькі так затрыманы“.

Відаць Міхал Пашкевіч пачуў гэта. Ён шпарка зірнуў на Лук'янца. У яго вачох была нейкая трывога.

Але зусім спакойным голасам ён сказаў дзеду:

— Пойдзем, дзед да хаты. Мне ў дарогу трэба сабрацца... Прыдзецца да гораду ехаць.

Сяльчане ўсёй грамадой праводзілі арыштаваных да Пашкевічавае хаты. Там ужо стаяла запрэжаная фурманка і паліцыянт, чакаючы, сядзеў на возе. Людзі глядзелі ў вокны, як у хаце Міхал Пашкевіч разьвітваўся з жонкаю, клаў у торбу харчы і бялізну. Праз хвіліну ён вышаў з вартаю да фурманкі. Той самы пастарункавы супакойвай Міхальчыху, а чырвоны вуграсты паліцыянт разганяў натоўп, што сабраўся каля хаты.

Чорны Лук'янец задумна стаяў каля крывое вярбы і ўсё глядзеў на Міхала. Каля яго тупалі, адыходзячы пад штуршкамі паліцыянтаў, хлопцы. Яны сьмяяліся з потных паліцыянтаў і крычалі Пашкевічу і Сямашку:

— Дармо, Міхась! Трымайся, Сямашка! Ня сумуйце!

Арыштаваныя ўсьміхаліся хлопцам і калі фурманка рушыла па пыльнай вуліцы замахалі з возу шапкамі.

Лук'янец з хвіліну стаяў, абапершыся аб вярбу, потым адарваўся ад яе і павольна закрочыў за фурманкаю. Паліцыянт пачаў паганяць ужо коняй, калі Міхал Пашкевіч, раптам відаць нешта ўспомніўшы, пацягнуўся да старшага пастарунковага, аб нечым упрашваючы яго. Потым, абярнуўшыся назад, ён паклікаў Лук'янца. Паліцыянт спыніў фурманку і старшы пастарунковы нецярпліва ляпаў хлысьцікам па халяве.

— Ты, братка, ведаеш, што,—гаварыў Міхал сьпяшаючыся,—я забыўся там сваім сказаць, каб пачакалі прадаваць цёлку, ды ты ім скажы, каб, значыцца, покуль ня прыеду...

Міхал гаварыў зьбіваючыся і сумятліва. Старшы пастарунковы нецярпліва пакрыкваў на іх, а паліцыянт ужо шморгаў лейцамі коняй.

— Ды добра, добра,—гаварыў Лукянец,—усё перакажу!

Яго чорныя вочы бегалі па паліцыянтах, а словы сыпаліся:

— Значыцца, сказаць вашым, каб да твайго прыезду... Добра, добра! Усё скажу.

І раптам Міхал Пашкевіч, перагнуўшыся з возу, абняў Лук'янца за жылістую загарэлую шыю. Старшы пастарунковы бачыў, як ён цалаваў яго, разьвітваючыся.

— Бывай, братка, бывай! Хутка ўбачымся,—чуў пастарунковы і раптам, абярнуўшыся, заўважыў, што Міхал у перапынках паміж частымі пацалункамі нешта шпарка-шпарка шпарка шэпча Лук'янцу, сьпяшаючы і нэрвуючыся.

— Прэч ад возу! Што за шэпты, пся-крэў!—грымнуў ён кідаючыся на арыштаванага.

**Монтаж ізалятараў высокавольтнай лініі у 81 т. вольт на электраразьмеркавальнай станцыі.**



Міхал шпарка адхіліўся ад Лук'янца. Смарганулі коні і Лук'янец, блiснуўшы вострымі вачыма, адскочыў ад фурманкі. Колы загрукацелі па выбітай пыльнай дарозе, абсыпанай насыцяж каляровым лісьцем бяроз.

Калі Лук'янец ішоў назад, на вуліцы было ўжо пуста. Усе людзі разышліся. Па вуліцы лётаў ядраны вецер і кружыў з жоўтым лісьцем сухую салому і трэскі.

— Вось як!—мармытаў Лук'янец.—Людзей арыштавалі, а гэтым хоць-бы што...

— Пра што ты гэта, братка?

Лук'янец ад нечаканасьці ўздрыгнуў. Поруч з ім ішоў прысадзісты крамяны Андрыёнак—першы гаспадар на сяле. Як і ўсе сяльчане, ён глядзеў на арышт і цяпер вяртаўся дя хаты. Лук'янцу ён быў суседам.

— Ды так вось,—неахвотна адказаў Лук'янец.—людзей, кажу, арыштавалі, а нашым хоць-бы што—паглядзелі дый пашлі сабе.

— А як-бы ты хацеў?

Андрыёнкавы вочы дапытліва глядзелі на Лук'янца.

— То-ж улада! Калі арыштоўвае, дык мабыць ёсьць за што. Га? Як ты мысьліш?

— Ня ведаю,—ухіляючыся, сказаў Лук'янец,—наша справа малая, мы людзі дробныя.

— А хто цяпер вялікі ў нас? Гэтак жывучы, вялікім ня зробішся.

— А ўжо-ж...—млява сказаў Лук'янец. Ён ня меў аніякае ахвоты гутарыць з Андрыёнкам.

— Дык я вось і кажу—не адчэпліваўся той—гэтак жывучы, вялікага ня прыдбаеш. Памяркуй сам, яко ў нас жыцьцё?

Андрыёнак пачынаў сваё звычайнае, пра якое Лук'янец ужо шмат чуў апошнім часам. У сяле багата зямлі, але яна параскідана, парэзана на палосы. Калі ўзяць гаспадара, дык у яго зямля паразьмешчана па розных палёх ды з панскай перамяшана. Які-небудзь гаспадар можа і досыць мае зямлі ды карысьці з яе няма ніякае. Вось, каб яна ў адным кавалку была, каб уся гаспадарка была на адным месцы, каб ніякі чорт ня лез да цябе ні з папапасам, ні з выганам... Каб усё сяло разьбіць на хутары,—вось тады-б можна было і пагаспадарыць! Няма табе тады ні патраў, ні крадзяжу, ні хто ў цябе не засоціцца, не зажнецца...

— Гм!—ужо злосна гаварыў Лук'янец.—А як-жа з галечаю нашаю зробіш? Што і ёй дасі па дзесяціне ў адным месцы?

— Чаму-ж?.. Каму, можа, і надбаўка будзе. Зямля і лішняя можа быць.

Лук'янец раптам абурыўся.

— На лішнюю-ж новага асадніка пасодзяць!

— Ды не! Якога асадніка? Я ня тое кажу. Іншаму малазямельнаму з няўдобнае могуць даць.

— Гэта значыць пасадзіць галечу на горы на пясок ды балоты? Добра надумаў, добра што й казаць. Хай, значыцца, цягне трухлявую хату з сяла на сваю дзесяціну... Ды яна-ж рассыпецца ўся. Дзе ён табе яе здолее перацягнуць!

Лук'янец захліпаўся ад злосьці. Пачынаў чырванець і Андрыёнак.

— А які табе клопат?—ужо нездаволена казаў ён.—Ты-ж як-ні-як гаспадар. Хоць невялікая, але гаспадарка, дык што табе да тае галечы?

Андрыёнак хітра паглядаў сваімі дапытлівымі вачыма і ўсё стараўся не адставаць ад шырокага Лук'янцовага кроку. Ён-жа цяпер маўчаў і толькі каля хаты спакойна сказаў Андрыёнку:

— Я табе скажу, браце. Ня хочу я, каб сяло разьбівалася. Зараз мы жывем усе разам, трымаемся адзін за аднаго. Грамадою і паспрачацца можам з кім-небудзь, калі трэба будзе.

— Гэта з кім-жа? Дзе-ж гэта той вораг?

На гэта Лук'янец нічога не адказаў. Ён закручваў вусы і моўчкі глядзеў пад ногі. У паветры лётала павуцiньне. Сыпаліся па зямлі жоўтыя лісты. За гумнамі, узвышаючыся над сялом, бялеў моцнымі сьценамі фальварак пана Гжэцкага.

— Хто-ж гэта наш вораг, братка?—запытаўся ўдругі Андрыёнак.

Лук'янец пахмура зірнуў на яго.

— Той, з кім ты ў адну дудку дзьмеш!—буркнуў ён.—Гэта-ж ты на камасацыю хочаш мяне ўгаварыць. Сяло разбурыць хочаш, па сьвеце беднату пусьціць, новага асадніка пасадзіць. Дык ня будзе гэтага! Чуеш, Панас? На будзе. Усё сяло супраць пойдзе!

— Ды цішэй-жа ты! Людзі пачуюць. Навошта раней часу галас узьнімаць?—Я-ж можа пажартаваў.

Адрыёнак небясьпечліва азірнуўся, але ніхто іх ня чуў. На вуліцы было пуста і ціха.

Патыхала вільготным ветрам з балота і шыльда на пастарунку звонка дзынкала.

Адрыёнак цьвёрда зірнуў у твар Лук'янцу хітрымі шчылінкамі вачэй і, ступіўшы крок ад яго, сказаў:

Дык запомні-ж, браце, што сяло нічога ня зробіць. Чуеш, нічога! Гэта галеча ня мае голасу. Голас за тым, хто мае большасьць зямлі, чуеш Лук'янец? Вось яно як!

Лук'янец зьбянтэжана глядзеў на яго.

— А наконт ворага, гэта ты здорава сказаў... Люблю шчырасьць.

І, адыходзячы ад Лук'янца, дробным хіхатам дадаў:

— А я чуў, чуў, як табе той арыштант Пашкевіч шаптаў... Рэч ведама; мы людзі свае, але чуў, чуў...

— Цьфу, свалата...—толькі і мог сказаць Лук'янец.

Ён злосна ірвануў фортку на двор і так бразнуў ёю, што куры спалохана закудахталі на плоце і зьляцелі ў канапляльнік, а флегматычны сабака, здавалася, ад нараджэньня прыкуты на ланцугу пасярод двара, узьняў галаву і зьбянтэжана забрахаў на гаспадара.

Аж да вечару, покуль жонка не паставіла на стол вячэру, Лук'янец ня мог супакоіцца. Ён нездаволена тупаў па хаце, ішоў з сякераю на двор, сёе-тое майстраваў, выходзіў на вуліцу і задумна круціў чорныя вусы.

— Камасацыю... Бач ты! Каб сяло ўсё парасьцягаць...—мармытаў ён сам сабе.

— Ты што гэта расхадзіўся сёньня? Вячэраць ідзі! Што там з табой сёньня сталася?

Лук'янец моўчкі сёрбаў крупеню і не глядзеў на жонку. У хаце стаяў пах чабору, мядуніцы і сушанае ліпы—жонка нешта разумела ў зёлках і на лета наносіла ў хату шмат розных траў. Імі яна потым лячыла свае хваробы ды і суседзям давала.

— Забралі сёньня хлопцаў,—парушыла яна маўчаньне,—і за што толькі? Не вінаватыя-ж яны ў падпале.

— За чорта лысага!—няласкава адказаў ёй муж.—Наплёў хто-небудзь куды трэба, вось і забралі. Цяпер-жа чаго-чаго, а шпіцляў хапае, разьвялося...

Вячэралі Лук'янцы цяпер толькі ўдвох. Сын яшчэ ў канцы лета паехаў, адбыўшы водпуск, на зіму ў Вільню. Ён вучыўся ў беларускай гімназіі. Вось ужо другі год, як Лук'янец вучыць Міколу. Выбіваецца з сіл, пасылае апошнюю капейку і ганарыцца, што сын будзе вучаным чалавекам. Паклаўшы лыжку, Лук'янец дастаў з-за бажніцы ліст ад сына і ў каторы раз пачаў яго чытаць. Гэта яго супакоіла і ён ужо зусім лагодным голасам сказаў жонцы:

— З Андрыёнкам сёньня гаварылі... Хоча гад камасацыю рабіць.

— Гэта на хутары ці што?

— Ага, на хутары.

— Гад гэты Андрыёнак—з панамі ліжацца, раптам зазлаваў Лук'янец.

Жонка прыбрала ўжо са стала і слала пасьцелі. Пераківаючы посьцілкі, яна гаварыла:

— Гэта-ж усё село ведае—з панам Гжэцкім у іх справа моцная. Нядарма-ж ён яму сёлета поплаў даваў касіць! Можа ў шпіцлі да яго пайшоў.

— Гад, што й казаць,—мармытаў Лук'янец і раптам нешта ўспомніўшы, усхапіўся з лаўкі.

— Куды гэта ты?

— Зараз прыду. Трэба ў адно месца схадзіць. Міхал Пашкевіч, як арыштоўвалі яго, прасіў справу адну пераказаць хлопцам.

Ён усьцягваў па сябе кажух і поркаўся ў кішанёх.

— Глядзі ты, галубок! Каб і табе таго ня было!—зласьліва сказала жонка.

— Ня дурыся!

Лук'янец зноў зазлаваў. Ён гучна бразнуў дзьвярыма і выйшаў на вуліцу.

На сяле было ўжо цёмна. Брахалі на краі сабакі. З балота цягнула вільготным ветрам. Праходзячы каля пастарунку, Лук'янец зірнуў у вакно, але там было цёмна, нічога ня відно. Насупраць, дзе кватэраваў паліцыянт, бліскаў агеньчык, цямнела пасунутая на вокны фіранка. Лук'янец прыгасіў цыгарку і, цчыльней загарнуўшыся, пайшоў па цёмнай вуліцы на край сяла.

---

У той самы вечар, насьпех павячэраўшы, Панас Андрыёнак сьцягнуў з крука чухмень і сабраўся выходзіць з хаты.

— Ізноў пойдзеш да гумна начаваць?—заклапочана запыталася жонка.

— Трэба-ж пайсьці паварта́ваць, усяк можа быць,—адказаў ёй Андрыёнак.—Поўныя тарпы жыта стаяць, крый божа чаго...

Андрыёнак не дагаварыў і палез за бажніцу. Ён выцягнуў адтуль закручаны ў анучы рэвальвэр і паклаў яго ў кішэню.

Кожную ноч ён хадзіў гэтай восеньню сьцерагчы гумно. Навокал ішлі чуткі пра падпалы. Часта ноччу, выйшаўшы з хаты, можна было бачыць далёкае зарава пажару. Гярэлі асаднікі. Нехта няўлоўны надпальваў панскія сьцірты, фальваркі.

— Канец сьвету прыходзіць!—квахтала Андрыёнчыха,—вялікая смута пайшла ў народзе.

— Які там народ!—мармытаў Андрыёнак.—Цёмныя людзі, злачынцы нейкія, вось табе і народ. Цяпер-жа пачалі ўжо і сваіх сялян, якія больш гаспадарлівыя паліць. Што на сьвеце дзеецца толькі!

— Ты-ж глядзі, беражыся там!

Андрыёнак не адказваў. Ён узяў з-пад лаўкі бліскучую (учора толькі ад каваля) сякеру і спрабаваў на палец яе лязо.

— Узяць ці не?—разважаў ён. Сказаць па-праўдзе, ён больш верыў ёй, цяжкой ёмкай сякеры, чым гэтаму далікатнаму кручку.

Нарэшце ён запхнуў яе за пояс, уважліва аглядзеў хату і вышаў на вуліцу, крыкнуўшы жонцы:

— Замкні-ж глядзі добра!

На вуліцы ён ішоў старожка, хаваючыся над ценямі вербаў. Над сялом павіс сьветлым гарбузом поўнік і вуліца маўчала ў яго сьвятле. За сялом, узвышаючыся на высокай горцы, смутна бялеў дом пана Гжэцкага. Там таксама ня было сьвятла і толькі ў мэзоніне, што высока ўзьнімаўся над домам, як ка гарэў у вадным вакне агеньчык. Ён бліскаў з імглы, як маяк, быццам даючы на сяло нейкія таемныя знакі, сыгналы.

Выходзячы на край сяла, Андрыёнак угледзіў у крайняй хаце Кандрата Янкоўскага агонь. Дзьве постаці там схіліліся за вакном блізка адна ад адное. Крадком, туляючыся пад ценямі, Андрыёнак падышоў да вакна і прыклаўся вухам. Быў чуцен Лук'янцоў голас і спакойны Кандратаў. З хвіліну Андрыёнак слухаў, потым бразнулі дзьверы і ён шпарка адбегся ад хаты пад цень разложыстае бярозы каля клуні.

З хаты вышаў Лук'янец, азірнуўся і пайшоў па сяле. Андрыёнак паглядзеў яму і шчыльней загарнуўся. Пачынаў дзьмуць халодны вецер і неба зацягвалася хмарамі.

— Мабыць заўтра дождж будзе!—падумаў Андрыёнак. Усё яшчэ баючыся, ён вышаў на задворкі і пайшоў па сьцежцы. Раптам ён узьняў галаву і ўглядзеўся пільна на ўсход за сяло, за чорнае поле.

Недзе далёка, бледна ружавела неба, дрыжэла чырвонае сьвятло і ледзь прыкметнае далёкае полымя прабівалася тонкімі языкамі пажару з-за небасхілу.

— Ізноў пажар!—прамармытаў уздрыгваючы Андрыёнак. Ён перахрысьціўся і павярнуў па сьцежцы да свайго гумна.

---

Пароды С. Каршуна

# ДЫНАМА

(На А. Вечара)

Ня зьлічыш сьмяцьця  
яшчэ ў нас на зямлі,  
чаго і стагодзьдзі дасюль  
не зьмялі.  
І сьмецьця ня мала пакінуў я—  
Дынама мая,  
Дынама мая.  
Крычу прывітаньне далёкім дням.  
Ім сэрца аддам  
(не сваё),  
а дынам.  
Бо любім,  
шануем тваё імя,  
бо твой я, дынама,  
а ты мая.  
Калі нас пакінуць  
адзін на адзін,  
табе я скажу  
абыймі, падыйдзі,  
бо гэтак-жа шчыр  
кахаю я.

Дынама мая,  
Дынама мая.  
Нарэшце балотам  
прышоў канец,  
прышлі эскадроны  
ваяк—каней.  
І з імі на поле  
ка мне прышла  
дынама мая,  
дынама мая.  
Павісьне заместа  
лірычных плям  
празрыстае яблыка  
электралямп,  
і трактар завые  
ля нашай мяжы!  
„О Вечар, о, дружа  
барждж эй памажы!“  
За трактарам выйдзе  
электраплуг  
і мой узьдзярэ  
поэтычны луг.  
Я ўспомню  
ў маленьні  
тваё імя—  
„Гренада моя,  
„Гренада моя (?)“




## на ВАЛЕРЫЯ МАРАКОВА

Сяджу пад Пушкіным адзін,  
а на душы такое гора,  
што ён нічога не гаворыць  
пра дні вялікіх пуцявін.  
Ты знаеш, Пушкін, я—поэт  
адной мы музай акрылёны,  
але бяда, што гэты сьвет  
зусім сьпявае па другому.  
Нас шлях з табой прывёў у туман  
(а гэта нам усім знаёма)  
і мы з табою песень дань  
аддалі нечаму другому.  
Ты знаеш, Пушкін,—я—поэт,  
Я славай гэтаю багаты.  
А мне, нікому не сакрэт,  
патрэбен добры, моцны тата.

# Андрэй Александровіч

ГУМАРЭСКА

Мясцовыя, менскія, пярэсьпінскія старажылы апавядаюць, што як нараджаўся Андрэй Александровіч,—зьбегліся з усіх бакоў да яго хаты крытыкі.

Было гэта яшчэ за царом, у 1906 г.

— Пролетарскі поэта нараджаецца, — сьцісла заўважыў Бэндэ.

— Найлепшы пролетарскі, — асьцярожна паправіў Кучар.

— Не з маім, а са сваім творчым мэтадам, — юмарыстычна кінуў сталы пісьменьнік з імем.

— Ідры вашу качалку,—закрычаў младзенец Андрэй свой замілаваны сказ. — Адыдзіце, не перашкаджайце нараджэньню чалавека.

Крытыкі адбегліся... І чалавек нарадзіўся.

Ня ведаю, ці праўдзівы гэтыя сьцьвярджэньні пярэсьпінскіх старажылаў, але ўлічваючы каханьне Андрэя да вышэйпададзенага выразу, з якога ён пазьней пачаў сваю п'есу „Напор“, я мяркую, што так яно праўдзіва і было.

---

Андрэй Александровіч яшчэ вельмі малады, і калі ён праходзіць па вуліцы, некаторыя рамізьнікі крычаць:

— Гэй, гэй, паберажыся! І хто гэта дзяцей бяз матак па вуліцы пускае.

Але Андрэй Александровіч не зважае на гэтыя выкрыкі нават і тады, калі яны нясуцца з вуснаў тых рамізьнікаў, імёны якіх значацца ў сьпісу беларускіх культурнікаў.

Андрэй Александровіч—ідзе.

Расьце і ідзе наперад.

Ідзе, не зважаючы на тых, хто адстае...

Ідзе, і такім чынам па сваёй расьсеянасьці, далёка зойдзе.

Зойдзе, бо не зважае на завываньні беларускага мешчаніна.

Андрэй Александровіч знойдзе сабе шлях.

Бо шляхі бываюць розныя. Я вунь ведаю аднаго чалавека, які некалі казаў мне, што ён абавязкова пойдзе па шляху да славы.

І ён пайшоў шукаць шлях да славы. Але пайшоў шляхамі сьвятога Іоны, які, як вядома, вышаў у сьвятыя непасрэдна праз чрэва кіта.

---

Андрэй Александровіч яшчэ расьце.

Але, калі ён дарос ужо да поэмы „Цені на сонцы“, поэмы, навакол якой падняўся гэткі сьвістапляс некаторых „інтэлігентаў“,—мерка здольнасьці Андрэя Александровіча ўзьнялася досыць высока.

А, сьвістапляс, трэба адзначыць, падняўся рэдкі ў гісторыі літаратуры.

Бо, ці быў, скажам, у гісторыі літаратуры гэткі выпадак, каб паводле літаратурных тыпаў, выведзеных якім-небудзь пісьменьнікам, паўсталі-б жывыя тыпы і загаварылі.

Вось так прыблізна загаварылі:

— Дастаеўскі напісаў „Идиот“. Гэта пра мяне.

Абскардзім у судовым парадку.

Або, што было-б, каб усе гэтыя Чычыкавы, Фамусавы, мальераўскія мяшчане ды інш., пазнаючы сябе, пачыналі-б паграажаць судом пісьменьнікам. Адзін Хлестакоў чаго нарабіў-бы.

Але нам здаецца гэта яшчэ толькі першы выпадак, калі ў сувязі з поэмай „Цені на сонцы“, з сонца спаўзьлі цені, пачалі паграажаць поэту судом, і, споўзшы з сонца, чалавечым голасам лаяць поэту.

P. S. Папярэднія радкі пра Андрэя Александровіча мною былі напісаны ў красавіку 1928 г.

Тады-ж я пісаў невялічкія сілуэты і пра другіх пісьменьнікаў, дык другія пісьменьнікі мяне не падвялі, — іхнія сілуэты як былі ў сіле ў 1928 г., так застаюцца ў сіле і да гэтага часу.

Пра літаратурны рост некаторых з іх нічога не дадасі апрача сказанага ў 1928 г., пра некаторых дадасі, а іменна тое, што яны за гэты час пастарэлі на чатыры гады, пра некаторых „альбо нічога, альбо добрае“.

Гэтыя апошнія самыя няшчасныя, бо, будучы славутымі ў 1928 г., яны ў 1932 г. зьяўляюцца літаратурнымі нябожчыкамі, якія яшчэ пры жыцьці самі сабе старанна падрыхтавалі пахаваньне па чацьвертаму разраду, а іменна, па таму самаму разраду, калі сам нябожчык нясе сваю труну.

З Андрэем Александровічам справа інакшая. Чатыры гады, якія прайшлі з 1928 г., гэта гады росту Андрэя і тут ужо без PS не абыдзешся.

І да 1928 г. ды і пазьней пасьля гэтага часу з ростам таленту Андрэя Александровіча, беларускія нацдэмы, дзе якія дабітыя, дзе якія недабітыя, казалі, што гэта Андрэй Александровіч прыкідваецца таленавітым.

Але Андрэй Александровіч сумленьней, чым яны мяркуюць.

Ён не прыкідваецца таленавітым,—ён сапраўды таленавіты поэта рэволюцыі. Сваёю штодзеннаю творчаю працай на працягу ўжо вось 10 год ён даводзіць гэтае.

Апошнім сваім вялікім творам „Напор“—п'еса, якая ідзе ў БДТ2, Андрэй Александровіч зрабіў яшчэ адзін вялікі крок наперад.

Я чытаў некалькі рэцэнзій аб „Напоры“. Цікава, што ў аднэй рэцэнзіі адзін рэцэнзэнт абвінавачвае другога ў тым, што ў таго рэцэнзента няма культуры,—другі ў сваю чаргу абвінавачвае першага рэцэнзента, што ў таго няма культуры.

Па-мойму абодвы рэцэнзенты „правы“. І ня трэба гэтак трэціраваць адзін аднаго.

Ня так даўно адбыўся 10-гадовы юбілей творчай працы Андрэя Александровіча,—але гэта, таварышы, вам вядома.

Што яшчэ дадаць да юбілею? Хіба тое, што дзе які „ягомасьць“ шыпеў з-за вугольляў з прычыны гэтага юбілею, як з прычыны выключнай клясавай накіраванасьці творчасьці Александровіча.

Але гэта былі такія „пісьменьнікі“, як Ляшэвіч ці то Лягові́ч, (запамятаваў, як яго славутае прозьвішча), літаратурную веліч якога можна разглядзець выключна пры дапамозе таго прыбору, праз які можна разглядзець усялякую дробязь, у тым ліку і мікроб жоўці недабітага нацдэма.

Праўда, за 10 гадоў творчай працы былі зрывы ў Андрэя Александровіча.

І хаця-ж Андрэй Александровіч праз усё сваё жыцьцё хутка ўзьбіраўся ўверх, але, раз зрабіўшы тую ці іншую памылку, Андрэй Александровіч яшчэ хутчэй спускаўся ўніз і шчыра пры гэтым сазнаваўся ў сваіх памылках.

З іншымі яго таварышамі было горш, яны, ужо раз залезшы ўверх,—самі зьлезьці былі ня ў сілах,—іх трэба было ссаджваць.

Канчаючы гэты постсрыптум, я хачу выгукнуць Андрэю Александровічу словамі Астапа Вішні:

— Вялікага табе здароўя, Андрэй!

— Дажыць табе да 100-гадовага юбілею!

Алёша.

## ЖЛОБІНСКАЯ ЯЙКАПТУШЫНАЯ ФАБРЫКА



Дагляд маленькіх куранят



У інкубатарнай

Па-бальшавіцку змагацца за колькасьць і якасьць прадукцыі

# НЕ РАБІЦЬ ЭКСПАНАТАЎ для ВІТРЫН БРАКУ

Канфэрэнцыя ўдарнікаў якасьці выкрыла ўсе прычыны, якія нараджаюць брак і нядобраякасную прадукцыю. Рашэньні канфэрэнцыі павінны быць неадкладна праведзены ў жыцьцё. Ударнікам можа быць толькі той, хто па-бальшавіцку змагаецца за колькасьць і якасьць прадукцыі.


Выстаўка Белшвейаб'яднаньня

Фото-брыгада
Каган
Розэнбліт
Салавейчык


Урачыстае адчыненьне канфэрэнцыі ў дзяржтэатры


Прэзыдыум канфэрэнцыі


Нарада трохкутнікаў


Выстаўка Белскур'аб'яднаньня

**ВАЛЕРЫ ШЭМПЕЛЬ**

# БРЫГАДА

Блакітным палотнішчам раскаціла свае воды рака Бярэзіна. На тым берагу ракі ледзь бачыш, як ветрык перабірае сваімі рукамі зялёную траву. Яна схіляецца пад ветрам і зноў выпростваецца і хваля бяжыць далей аж да самага лесу. А магутны лес вольна раскінуўся на прасторы і здаецца блакітнае неба зыходзіцца з верхавінамі дрэў. Але з году ў год, гэты пэйзаж губляе сваю прыгожасьць, лес з кожным днём радзее і радзее. Сюды прышлі тэхнікі і інжынэры торфазнаўства, частку плошчы аслабанілі для торфу, а лес як матэрыял, неабходны для будаўцінтва, падвозілі да ракі, зьвязвалі ў плыты і пераганялі на другі бок.

На правым беразе ракі, шырока раскінуліся цагляныя плечы заводу „Комінтэрн". Вялікія адчыненыя вокны і дзьверы з вялікай энэргіяй удыхаюць у сабе сьвежы лясны вецер. Ад заводу зьвілістымі дзьвюма бліскучымі лентамі, працягнуліся рэйкі. Ваганетка, пушчаная на ўвесь ход, з шумам улятае ў раку, аддаючы ад сябе пыркі цёплай вады. Рабочыя, узброіўшыся баграмі, спрытна падлаўліваюць на багор бярвеньне і кладуць на ваганеткі. А тут-жа побач на беразе ракі ляжаць горамі вялікія кучы вышаванага з вады бярвеня.

Гэта запас—адказваюць мне рабочыя. І вось яны падчапілі да ваганеткі каня, і конь, напружыўшы ўсе свае сілы, стаў лічыць невялічкімі крокамі шпалы. Пятнаццаць хвілін і ваганетка з бярвеньнямі ў лесапільным цэху № 1. Як раз на сярэдзіне цэху стаяць тры лесапільных варштаты, і чуецца шушуканьне піл і цяжкія ўздохі рам. Сонечныя праменьні прабіваюцца паміж піл і асьвятляюць рак, замацаваны на карэткі, дзе кладзецца камель. Бервяно накіроўваецца вершалінай на ролікі, каб шчыльней падыйсьці к пілам. З-заду рака-варштатны накручваючы вілкі.

— Лапы сьціснулі камель!

— Ёсьць!—крычыць варштатны Какшараў свайму памоцніку Яшчанку. Зазьвінелі пілы, пасыпаліся апілкі і на другім баку варштата выходзілі расьпілованыя дошкі. Дружна спорыцца работа, камель за камлем праходзіць праз раму, пілы рэжуць не шкадуючы ўсё, што пападаецца ім на зубы.

Сам Какшараў абсыпаны белымі апілкамі, пільна сочыць за работай варштатаў.

Лепшая брыгада—варштатнага Какшарава. Пачынаючы з 1929 г., яна не здае сваіх вытворчых позыцый. Сьмяюцца варштатныя другіх варштатаў.

— Некалькі год працуем мы разам з ім, плячо ля пляча, варштат ля варштата і мы адстаем ад яго. І лес падвозяць аднолькавы і ён апераджае.

І Какшараў адказвае на словы варштатных:

— Значыцца, вы ня ўмееце працаваць, калі адстаеце.

— Ты сам бачыш, як мы працуем.

— Але нічога з гэтага ня выходзіць, пасьмейваецца Какшараў.

— Ну хлопцы, націсьнем!..

І Какшараў, кручком падвярнуўшы камель на карэтку, закруціў вілкі. І зноў зазьвінелі пілы, адкідваючы ад сябе сьняжынкі пульхных апілак.

— Цікава тут працаваць, кажу я Какшараву.—Чыстае паветра, сасновы пах дрэў. Ня праца, а курорт.

— Добра казаць, а вось паспрабуй пападнімаць камлі на карэткі, бадай, што і забудзеш пра сасновае паветра. Але нішто, мы любім працу, а праца нас. Яно і добра выходзіць.

Наша брыгада не адразу заваявала вытворчыя позыцыі. Сьпярша на 60 проц., потым на 70 проц., а потым усе вышэй і вышэй і зараз выконваем прамфінплян на 120 проц. Яшчэ ніхто нас не адважыўся перагнаць,—засьмяяўся Какшараў.

Адразу відаць было, што быў ён давольны гэтым. За ўдарную працу, за добрыя адносіны да варштату, за падрыхтоўку кадраў, грамадзкасьць узнагародзіла яго ордэнам працоўнага сьцягу.

— О, наша брыгада, на ўсё 120.—І Какшараў хітра ўсьміхаецца, здагадайся моў', што азначае на 120.

Відаць, што вясёлы чалавек Какшараў, любіць пажартаваць, а таксама і папрацаваць.

— Вось мпе далі адзін раз на трэцюю руку Алесіна, піў ліха ведае як. Бывала прыдзе да хаты п'яны як туз, жонку паб'е, дзяцей. А потым выгане ўсіх на вуліцу. На працу заўсёды спазьняўся, а іншы раз і зусім ня прыдзе. Глядзеў я на яго, глядзеў, але потым з цярпеньня вышаў, дай думаю паспрабую чалавека на ногі паставіць. І ўзяў я яго ў свае рукі, на буксір брыгады і што ты думаеш—праз некаторы час перастаў піць, залатым чалавекам стаў. Я аж сам зьдзіўляюся іншы раз. А зараз ён працуе на камбінаце ў горадзе Бабруйску.

І Какшараў, падвярнуўшы вілкі, махнуў памоцніку рукой, у які бок падвярнуць вершаліну дрэва.

Зноў зазьвінелі пілы і карэтка ўсё шчыльней і шчыльней пад'яжджала ца варштата.

Раптам прагудзеў гудок на чатыры гадзіны. Цэх стаў, сталі пілы і электраматоры, ня відаць больш хваляваньня пасоў і ня чуваць шушуканьня піл у рамах. Сонца пачало зварачваць на захад, туляючыся сваімі праменьнямі за сьценамі заводу.

Да Какшарава падыходзіць сьлесар Бурко.

— Вы будзеце працаваць другую зьмену?

— Нічога ня зробіш,—адказвае Какшараў.

— Вы ведаеце, тав. Какшараў,—гаворыць Бурко.—Пілы за апошні час сталі дрэнныя, раней замежныя былі добрыя. Праўда сталь іх была сухая і яны часта лопаліся, а нашы ня лопаюцца, а гнуцца.

— Гэта нічога,—кажа Какшараў.—Наша піла хоць сагнецца, але па якасьці яна лепш замежнай. Праз некаторы час, калі мы аўладаем тэхнікай, дык наша піла ня будзе ні гнуцца ні лопацца.

Сьлесар Бурко, выслухаўшы ўважліва Какшарава, хлопнуў яго рукой па плячу.

— Праўду ты, брат, кажаш!

На гэтым іх гутарка скончылася. Мы выходзім з цэху і чуем, як у калодачным цаху зьвіняць пілы, а на дварэ возчыкі крычаць на коняй. Праз увесь двор праехаў пыхаючы цягнік, падкатваючы пустыя вагоны для экспортнага лесу. Спыніўся, дзе шырока раскінуліся роўна зложаныя дошкі ў табелі і ўноў адкідваючы па бакох пару і пад звонкія тахты колаў, папоўз нібы зьмяя на станцыю.

А сонца акрывавіла ўвесь захад, падуў халодны ветрык, загарэліся ліхтары, наступіў вечар.



**На будаўніцтве Магнітагорскага гіганта. Комсамольская коксавая батарэя № 7.**

М. ЧЫШЭВІЧ

# ДРУГОМУ
## УСЕСАЮЗНАМУ КОНКУРСУ-АГЛЯДУ
# БАЛЬШАВІЦКІЯ ТЭМПЫ



Менскі хлебазавод прэміраваны. Інструктар тав. Войнеловіч.

У пачатку лютага фізкультурная організацыя Беларусі закончыла першы конкурс на лепшы раён па разгортваньні фізкультурнай працы. За час правядзеньня конкурсу ф-к колектывы на прадпрыемствах дабіліся значных посьпехаў у перабудове сваей працы, падпарадкаваўшы яе выкананьню гаспадарча-палітычных задач, праводзячы яе на аснове комплекса „гатоў да працы і абароны“.

Фізкультурнікі Беларусі пасьпяхова выконваюць контрольныя лічбы па здачы норм на значок. Але-ж гэта ня ўсё. Перад намі стаіць вялікая задача — укараніць фізычную культуру ў вытворчыя процэсы, „Організаваць фізкультурныя, гаспадарча-разьліковыя брыгады, разгарнуць падрыхтоўку да сусьветнай спартакіяды. Змагацца за 35 тысяч поўнасьцю здаўшых нормы на значок у 1932 годзе, за 150 тысяч організаваных фізкультурнікаў Беларусі да сусьветнай спартакіяды.

Першы Ўсесаюзны конкурс-агляд прайшоў нездавальняюча. У цэлым шэрагу раёнаў недаацанілі значэньня конкурсу, аднесьліся да яго як да чарговай кампаніі. Усё гэта давяло да таго, што не ўсе ф-к колектывы ўключыліся ў конкурс. Буйнейшым недахопам у правядзеньні конкурсу зьявілася тое, што інструктар фізкультуры ня быў уключаны ў яго агульны плян.

У другім конкурсе інструктар удзельнічае ня толькі ў выкананьні сваіх паказчыкаў на права называцца лепшым інструктарам, але зьяўляецца самым актыўным і непасрэдным удзельнікам у выкананьні паказчыкаў колектыва—удзельніка конкурса. Неабходна дабіцца ўключэньня ў конкурс-агляд усіх інструктароў і гэтым самым павялічыць іх адказнасьць за становішча і працу фізкультурнага колектыва. Асноўнымі мэтодамі правядзеньня конкурса-агляду 1932 года павінна быць: соцыялістычнае спаборніцтва паміж колектывамі, паміж раённымі організацыямі. Раённыя саветы фізкультуры павінны ажыцьцявіць конкрэтнае кіраўніцтва ф-к колектывамі. Конкурс-агляд па лініі профсаюзаў будзе праводзіцца дыферэнцыявана па чатырох падгрупах: прадпрыемствы, саўгасы, МТС, вузы і ўстановы. Таму вельмі важна, каб усе раённыя фізкультурныя організацыі дыфэрэнцыявалі сваё кіраўніцтва і забясьпечылі посьпехі конкурса-агляду ў кожнай з гэтых падгруп.

Усе колектывы ф-к—удзельнікі конкурса павінны мець на ўвазе аказаньне практычнай дапамогі падшэфнаму колгаснаму гуртку фізкультуры ў правядзеньні конкурсу. Уся праца, праводзімая па конкурсу, павінна праходзіць пад кантролем рабочых мас. Аб ходзе конкурса, аб яго дасягненьнях і недахопах павінны ведаць усе фізкульнікі, уся пралетарская грамадзкасьць. Рашучы адпор павінен быць дадзены клясава-чужым элемэнтам, якія будуць перашкаджаць правядзеньню конкурса. Фізкультурная організацыя Беларусі павінна па баявому правесьці другі ўсесаюзны фізкультурны.

---



Менскі хлебазавод. Старшыня бюро ф-к калектыва тав. Шварц.

Другі усесаюзны конкурс-агляд колектываў фізкультуры ў профсаюзах мае на мэце павысіць грамадзка-палітычную актыўнасьць фізкультурнікаў, а таксама актыўнасьць шырокіх рабочых колаў у перабудове, разгортваньні і замацаваньні фізкультурнага самадзейнага руху, будуючы працу колектываў фізкультуры ў адпаведнасьці з задачамі, пастаўленымі ЦК УсеКП(б) аб ператварэньні фізкультурнага руху ў сапраўдна масавы рух з шматмільённым ахопам працоўных.

Конкурс-агляд павінен выявіць: конкрэтныя вынікі ўдзелу фізкультурных колектываў у грамадзка-палітычным, гаспадарчым і культурным будаўніцтве краіны ў заключным годзе пяцігодкі. Выявіць колькасныя і якасныя вынікі перабудовы самадзейнага фізкультурнага руху па вытворчаму прынцыпу і працу колектываў на ўсіх вучастках выкананьня прамфінпляну: у цэху, зьмене, агрэгаце і істужцы. Выявіць перабудову ўсёй вучэбна - мэтодычнай працы масавай і спартыўна - тэхнічнай на аснове комплекса „гатоў да працы і абароны“.



Менскі хлебазавод. Паседжаньне бюро ф-к супольна з комсамольскім актывам.

Уся праца конкурса павінна быць увязана з падрыхтоўкай да сусьветнай спартакіяды. Фізкультурнікі савецкай Беларусі павінны адстаяць пяршынство ў Саюзе па здачы норм на значок „Гатоў да нрацы і абароны“ і заняць першае месца ў конкурсе-аглядзе.

---

**Асноўная задача фізычнай культуры — падрыхтаваць з фізкультурнікаў, лепшых байцоў для Чырвонай арміі.**

**АНЦІПАЎ**

# ПА ЧЫРВОНАЙ БЕЛАРУСІ

Фото МАЗЕЛЕВА



Ударніца сьлесар завода імя Варашылава т. Кроль



Машыны для парафінаваньня паперы на фармазаводзе ў Менску

# ПА СССР



Дэлегаты швэдо-норвежскай рабочай спартыўнай дэлегацыі, запісваюць свае ўражаньні аб будаўніцтве Сібкомбайна



Падпісаньне дагавора ЦК нафтавікоў аб концэсіі з Японіяй



АССР. Чарада Карабахскіх авечак у саўгасе „Овцевод" імя 28 красавіка

Выданьне Дзяржаўнага Выдавецтва Беларусі. Рэдактар МІХАСЬ ЧАРОТ

# ШАХМАТЫ № 7

Друкуецца ў першы раз

Эцюд № 1



М. А. Айзеншытат

Белыя пачынаюць і выйгрываюць

Задача № 47



Я. Е. Камянецкі

Мат у 2 хады

Задача № 48



Дэвіз „Пражэктар 2“

Мат у 2 хады

## РАБОЧЫЯ ШАХМАТЫСТЫ НЯМЕЧЧЫНЫ Ў СССР

У мэтах падрыхтоўкі да сусьветнай спартакіады 1933 году і ўзмацненьня сувязі з рэволюцыйнымі рабочымі шахматнымі організацыямі замежных краін на працягу гэтага году чакаецца прыезд у СССР шэрагу рабочых шахматных каманд з розных краін.

Першых з гэтых каманд — рабочых шахматыстаў Нямеччыны 20 сакавіка прыехала ў СССР.

У складзе каманды рабочыя-шахматысты Нямеччыны, удзельнікі тэлеграфнага матчу СССР—Эўропа: 1. Рыхард Швэбэль (Лейпцыг), 2. Георг Нэйман (Оппэль), 3. Альфрэд Леман (Брэслаўль), 4. Бэрнард Сімон (Оппэль), 5. Мартын Дэйч (Гарбург), 6. Мартын Путке (Брэслаўль), 7. Герман Гронаў (Гамбург), 8. Вільлі Кэр (Эрфурт), 9. Карл Шыфбаўэр (Золінген), 10. Робэрт Бэргер (Брэслаўль).

Усе дзесяць зьяўляюцца рабочымі, з якіх шэсьць у сучасны момант беспрацоўныя.

Каманда пабывала ў Маскве, Туле, Харкаве, Ленінградзе, Віцебску і Менску, дзе з'іграла шэраг матчаў з савецкімі шахматыстамі.

Падрабязны вынік відаць з ніжэй зьмешчанай табліцы.

| №№ матчу | Горад, організацыя | Вынік + | Вынік = | Вынік — |
|---|---|---|---|---|
| | **Масква** | | | |
| 1. | Зав. „Серп і Молат“ | 6 | 0 | 4 |
| 2. | Зав. імя Сталіна | 6 | 1 | 3 |
| 3. | Зборная профсаюзаў | 8 | 1 | 1 |
| | **Тула** | | | |
| 4. | Зборная профсаюзаў | 7 | 3 | 0 |
| | **Харкаў** | | | |
| 5. | Зборная профсаюзаў | 7 | 2 | 1 |
| 6. | Харкаўскія гіганты | 8 | 1 | 1 |
| | **Ленінград** | | | |
| 7. | Дынамо | 7 | 3 | 0 |
| 8. | „ | 8 | 2 | 0 |
| | **Віцебск** | | | |
| 9. | Зборная профсаюзаў | 7 | 0 | 3 |
| | **Менск** | | | |
| 10. | Зборная профсаюзаў | 7 | 2 | 1 |
| 11. | РДУ | 3 | 1 | 6 |
| 12. | Зборная профсаюзаў | 7 | 3 | 0 |
| | Разам | 81 | 19 | 20 |

Агульны вынік матчаў: СССР выйграў 81 партыю, прайграў 20, астатнія нічыі.

Акрамя ігры матчаў рабочая шахматная каманда Нямеччыны азнаёмілася з соцыялістычным будаўніцтвам, з бытам і ўмовамі работы нашых рабочых. Усюды перад матчамі адбываліся лятучыя мітынгі, на якіх нашы рабочыя расказвалі аб рабоце нашых прадпрыемстваў і аб пасьпяховым завяршэньні пяцігодкі. Нямецкія таварышы ў сваю чаргу гаварылі аб беспрацоўі ў Нямеччыне, эксплёатацыі працоўных і аб сваёй рэволюцыйнай барацьбе. Усе таварышы з Нямеччыны заяўляюць, што яны раскажуць вярнуўшыся ў Нямеччыну ўсю праўду аб СССР.

Удзельнік нямецкай каманды т. **Георг Нэйман** падаў заяву аб прыеме яго ў члены комуністычнай партыі.

Прыезд рабочай шахматнай каманды яшчэ больш узмацніць сувязь савецкіх шахматыстаў з рабочымі організацыямі Нямеччыны.

**Ніжэй зьмяшчаем партыю, іграную ў матчы зборнай профсаюзаў Менску з Нямеччынай (зборнай рабочай).**

### ПАРТЫЯ № 6

Адмоўлены фэрзевы гамбіт

Іграна ў матчы Нямеччына (зборная)—БССР (Менск) 12 красавіка 1932 г.

**Я. Камянецкі** (Менск) — **Мартын Путке** (Брэслаўль)

1. d2—d4 d7—d5—
2. c2—c4 Kg8—f6
3. Kb1—c3 c7—c6
4. Kg1—f3 e7—e6
5. Cc1—g5 Kb8—d7

Калі-б 5. . . . d5 : c4, дык 6. a2—a4 і 7. e2—e3

6. e2—e3 Cf8—b4
7. Фd1—c2 Cb4 : C3 +
8. b2 : c3 0—0
9. Cf1—d3 d5 : c4
10. Cd3 : c4 . . . . . . .

Тут магчыма было і 10. Cd3 : h7 + аднак ход у тэксьце лепш.

10. . . . . . . h7—h6
11. Cg5—h4 Лf8—e8
12. 0—0 Фd8—C7
13. Лd1—b1 Kf6—h7

Нельга 13. . . . e6—e5, бо сьледуе 14. Ch4 : f6 ! і чорныя губляюць пешку, а з ёю і партыю.

Аднак ход, зроблены ў партыі, таксама даволі пасыўны.

14. e3—e4 Kh7
15. e4—e5 Kf
16. Ch4—g3 .

Раз гоняць, трэба адыйсьці!

16. . . . . K

Невядома для чаго чорныя сваіх каней, дзе яны ня коні,

17. Kf3—d2 .

З мэтай заняць вельмі паважнае ме ў чорных, на полі

17. . . . . b7—b5

Гэтым ходам чорныя ня толькі ня супраціўляюцца відавочнаму ма але і паслабляюць пункт c5.

Становішча белых ста вочна лепшым.

18. Cc4—d3
19. Kd2—e4
20. f2—f4 !
21. f4—f5 .

Лепш было прасьцей 21. Ke4— пасьля 22. f4—f5.

21. . . . . . e6 : f5
22. Ke4—c5 f5—f4
23. Cg3 : f4 Kg6 : f4
24. Лf1 : f4 Kf8—e6
25. Kc5 : e6 Cc8 : e6
26. Лb1—f1 Лd8 : d7
27. Cd3—f5 Лb8—e8
28. Cf5 : e6 Лe8 : e6
29. Лf4—g4 c6—c5
30. Фc2—f2 c
31. c3 : c4
32. Фf2—g3

Што рабіць? і чорныя на памен ладзей

32. . . . . .
33. Лg4 : g6
34. Фg3 : g6

Здавалася-б у такім выйгрышу белым і ма дзіцца. Але ён ёсьць і вым шляхам.

35. Фg6—e6 +

Калі-б 35. . . . Kpg8—h8 f8 +, Kpg8—h7 37. Фe6- 38. Лf8—f7 + і выігр.

36. Фe6—f5 +
37. Фf5—f8 +
38. e5—e6 !

Пагражае e6—e7, ад яко няма абароны. Напр.: 38. . . . Фc7—b6, 39. e6—e7, Лd4—f4 + 40. Kpg1—h1 і выігр.

Чорныя з'ігралі: 38. . . . Лg4—d8. 39. e6—e7 і чорныя здаліся.

Друкарня імя Сталіна. Зак. № 1140. У ліку 2000 экз. Галоўлітбел № 661

